

# ВІЦЕБСКІ РАБОЧЫ

Абласная незалежная масавая газета

Выдаецца з лістапада 1917 г.

Серада, 8 снежня 1993 г.
№ 158 (19293) Цана 15 руб.


# Падзеі. Факты. Каментарыі

♦ *ПАРЛАМЕНТ: ДЗЕНЬ ЗА ДНЁМ*

## ЛЯ МІКРАФОНА — МІНІСТРЫ

Эканоміка Беларусі перажывае цяжкі час. Амаль усе галіны гэтага складанага механізма апынуліся ў крытычнай сітуацыі. Многія прадпрыемствы вымушаны скарачаць, а то і згортваць вытворчасць. Таму невыпадкова па прапанове шэрага народных дэпутатаў Вярхоўны Савет прыняў рашэнне на цяперашняй сесіі заслухаць членаў урада аб стане спраў у падведамных ім галінах народнай гаспадаркі.

3 снежня з інфармацыяй выступілі міністр сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання Фёдар Мірачыцкі і міністр энергетыкі Валянцін Герасімаў. На думку Фёдара Мірачыцкага, прычынай цяжкага становішча ў аграрным комплексе, якое пагаршаецца з кожным днём, з'яўляецца марудпае правядзенне рэформ, кепскае матэрыяльнае і тэхнічнае забеспячэнне, сур'ёзнае расстройства фінансава-крэдытнай сістэмы. У выніку сельская гаспадарка рэспублікі ўпершыню будзе мець больш за 140 стратных гаспадарак. На нізкім узроўні знаходзіцца перапрацоўчая галіна. У гэтых умовах з цяжкасцю ажыццяўляецца выплата вяскоўцам зарплаты, дрэнна ідзе нарыхтоўка ўгнаенняў, не закупляецца племянная жывёла. Нягледзячы на тое, што ўрад рэспублікі аказвае пасільную дапамогу вёсцы, падкрэсліў міністр, прынятых мер недастаткова. Ен лічыць, што на даным этапе на сельскагаспадарчую прадукцыю павінны быць рэгулюемыя закупачныя цэны, якія будуць сістэматычна карэкціравацца. Важнай мерай для стабілізацыі аграпрамысловага комплексу з'яўляецца захаванне субсідый дзяржавы. Акрамя таго, неабходна ўвесці датацыі для гаспадарак, якія знаходзяцца ў найбольш цяжкіх умовах.

Не менш складаная сітуацыя і ў энергетычным комплексе рэспублікі, лічыць Валянцін Герасімаў. У той жа час ён адзначыў, што ўсе мерапрыемствы на надыходзячы зімні перыяд аб гатоўнасці абсталявання і персаналу выкананы.

Спажыванне энерганосьбітаў на сённяшні дзень характарызуецца такімі лічбамі. Сутачнае расходаванне электраэнергіі — 132 мільёны кілават-гадзін, з якіх да 20 мільёнаў рэспубліка атрымлівае ад суседзяў, а найбольш танную — з Расіі. Штосутачны расход цяпла на ўзроўні 200 тысяч гіга-калорый. Гэта ніжэй за ўзровень 1992 года на 12 працэнтаў. Аднак сярэднія запасы паліва на электрастанцыях і ў кацельнях толькі на 10 сутак. На многіх абагравальных сістэмах работа ідзе па сутнасці "з колаў". Што датычыцца паліўнага забеспячэння, то штосутачны расход мазуту складае 24 — 25 тысяч тон, а газу — 24 мільёны кубічных метраў у суткі. Гэта на 9 мільёнаў менш, чым у мінулым годзе. Акрамя дзяржаўных паставак, ажыццяўляюцца закупкі (40 працэнтаў) у камерцыйных структур.

Міністр энергетыкі падкрэсліў, што агульная абанентная запазычанасць складае 255 мільярдаў беларускіх рублёў. Доўг рэспублікі за энерганосьбіты, уключаючы газ, купленую электраэнергію, мазут налічвае 146 мільярдаў расійскіх рублёў. Міністэрства энергетыкі прапануе ўвесці новы рэжым спажывання энергіі на снежань і першы квартал будучага года.

Прадугледжваецца далейшае абмежаванне на 30 працэнтаў электраэнергіі да ўзроўню лістапада, а расходаванне цяпла — на 20 працэнтаў.

**Тэрэза ХАЮЦІНА,**
**Белінфарм.**

♦ *З БЛАКНОТА АГЛЯДАЛЬНІКА*

## Нас пазбавілі вялікай Айчыны...

Шмат розных дат у гісторыі Савецкага Саюза, аднак, напэўна, самая трагічная і ганебная — 8 снежня. Менавіта ў гэты дзень два гады назад шэсць чалавек, сабраўшыся ў белавежскай глухамані, узялі ды і ліквідавалі гэтую найвялікшую дзяржаву. Вы толькі ўдумайцеся як след: тое, чаго не маглі дабіцца сілай зброі, хоць і спрабавалі не раз, самыя лютыя яе ворагі, ціхамірна зрабілі шэсць палітыканаў.

Успомніце, як да жудасці проста ўсё было "абцяпана". Прысвоіўшы сабе права аднаасобна вырашаць лёс амаль трохсот мільёнаў людзей, пераважная большасць якіх за некалькі месяцаў да гэтага на ўсенародным рэферэндуме рашуча выказалася за захаванне СССР, гэтыя дзялкі склалі паперу, першымі радкамі якой запісалі: "Мы... канстатуем, што Саюз ССР як суб'ект міжнароднага права і геапалітычная рэальнасць спыняе сваё існаванне". Вось так цынічна — "спыняе сваё існаванне". Баязліва сцярпеў гэта перапалоханы першы і апошні прэзідэнт СССР, не варухнулася пракуратура, хоць было ўчынена з пункту гледжання Канстытуцыі і Крымінальнага кодэкса найвялікшае злачынства, хуценька праштампавалі пагадненне аб стварэнні СНД Вярхоўныя Саветы трох славянскіх рэспублік. І самае трагічнае — сцярпеў народ.

Прыгадваю, як літаральна праз два дні я цікавіўся думкай наконт таго пагаднення ў простых прахожых. Большасць з іх увогуле абыякава паставілася да гэтай падзеі. Яно і не дзіўна, бо тое, што адбывалася ў апошнія гады ў краіне, надакучыла ўсім. Палалі ўжо міжнацыянальныя канфлікты, кацілася пад адхон эканоміка, імкліва расла мафія, па сутнасці, развальвалася сама дзяржава. Мы ж памятаем, як марынавалася тады падпісанне новага Саюзнага дагавора. Так што людзі разлічвалі: стварэнне СНД прыпыніць гэты развал, стане асновай для адраджэння нашай неяк раптоўна зняверанай, знявечанай, абяскрыленай і зняслаўленай Айчыны. На гэта, дарэчы, спадзяваўся і я. Тым больш, што ў пагадненні прадугледжваліся захаванне адзінай эканамічнай прасторы, "далейшае развіццё і ўмацаванне адносін дружбы, добрасуседства і узаемавыгаднага супрацоўніцтва", свабода перамяшчэння грамадзян, каардынацыя знешняй, таможнай і міграцыйнай палітыкі, аб'ядпанне намаганняў па перадоленню вынікаў чарнобыльскай катастрофы, аб'яднанае камандаванне агульнай ваенна-стратэгічнай прасторай і г.д.

На жаль, добрыя намеры так і засталіся, як усе мы бачым, толькі на паперы, хоць сёй-той зараз даводзіць, што яны ў Віскулях стараліся захаваць тое, што заставалася ад краіны, а механізм ажыццяўлення пагаднення, маўляў, павінны былі распрацаваць іншыя. Дзіўныя людзі: прымаюць рашэнні, але зусім не думаюць, як іх ажыццяўляць! Што выйшла з СНД, наўрад ці трэба каму даказваць. Усё мы гэта бачым увачавідкі па нашым сённяшнім жыцці, адчуваем на ўласнай скуры.

Што датычыць Беларусі, то тут хочацца прывесці надзвычай красамоўны факт, які чамусьці так і застаўся незаўважаным у нашай прэсе, хоць каменціраваць яго можна было бясконца. А факт такі — сёлета ў жніўні Рэспубліка Беларусь звярнулася да Арганізацыі Аб'яднаных Нацый з просьбай разглядаць яе эканамічна менш развітой дзяржавай, чым раней, і знізіць адпаведна яе ўзнос у аперацыі ААН па падтрыманню міру. Што ж, вынік заканамерны. Палітыкі, верхам мудрасці якіх было б усяляк захоўваць адзіную дзяржаву для карысці сваіх народаў, зрабілі якраз наадварот. Тут няма сэнсу разважаць, чаму гэта адбылося, — па іх уласнай дурасці, па імкненню, што называецца, быць вялікімі жабамі хоць і ў малым балоце, або выконвалі нечы заказ — гісторыкі некалі з гэтым разбяруцца. А мы сёння можам канстатаваць адно: нас аграбілі, пазбавілі вялікай Айчыны і тым самым надзеі на хуткае паляпшэнне жыцця, на што мы так спадзяваліся. Зрэшты, увесь трагізм віскулёўскага пагаднення аб ліквідацыі СССР зразумеюць, напэўна, толькі нашы дзеці і ўнукі. І 8 снежня назаўсёды застанецца, што б там ні гаварылі, чорнай датай у нашай гісторыі.

**Л.МАКАРАНКА.**

♦ *ГЛЫБОЦКІЯ НАВІНЫ*

## Калі пісьменнік — калега...

Ірына Жарнасек, вядомы беларускі празаік з Полаччыны, нарадзілася, між іншым, на Глыбоччыне і тут жа пачынала ў бібліятэцы сваю працоўную дзейнасць.

Дык вось, аб апошняй акалічнасці ўспомнілі па выхадзе чарговай кнігі Ірыны Францаўны "Гульня над студняй" бібліятэкары Глыбокага і запрасілі яе ў раён на прэзентацыю новага твора.

Сустракалі зямлячку на Глыбоччыне вельмі цёпла. Тым больш, што суправаджаў яе і не менш вядомы паэт з Полаччыны Навум Гальпяровіч.

## Калі жаніцца, дык усім?..

Ажно васемнаццаць вяселляў згулялі нядаўна за адзін дзень у Глыбокім. Мужам і жонкай сталі Юрый Януковіч і Святлана Ярыга, Аляксандр Казановіч і Таццяна Гаўрыляк, Ігар Сямчонак і Марыя Кірэй і іншыя.

Такая шлюбная актыўнасць тлумачыцца тут наступаючым перадкалядным пастом, у які цяпер мала хто адважваецца жаніцца. Ды і вянчаць маладых не будзе каму!

**Ул.САУЛІЧ.**

## Экспрэс — інфармацыя

*Кандыдат у дэпутаты Дзяржаўнай думы масквіч Аляксандр Мінкін абнародаваў процьму фактаў падтасоўкі подпісаў. На Цэнтральную выбарчую камісію надзеі няма. Рабаў ужо не раз публічна заяўляў, што ў абавязкі камісіі не ўваходзіць праверка сапраўднасці подпісаў. Мяркуючы па дзікай колькасці фальшывых падпісных лістоў, Рабаў быў пачуты і зразуметы. Незразумела, пытаецца Мінкін, навошта з нашай кішэні бяруць сотні мільярдаў рублёў на выбары? Бо жулікі згадзіліся б стаць заканадаўцамі бясплатна.*

**На Мінскім чыгуначным вакзале з'явіліся лжэправаднікі. Карыстаючыся неразбярыхай, якая часта ўзнікае пры пасадцы ў вагоны, сярэдняга росту малайцы аператыўна і дакладна вырашаюць праблемы з тымі, хто не здолеў узяць білеты. Запускаючы іх у вагоны, яны бяруць у спалоханых і гатовых на ўсё "зайцоў" умераную плату, а затым спакойна адпраўляюцца ў вакзальны буфет "пагрэцца" на зробленыя грошы. А ў гэты час міліцыя ў цывільным наводзіць паніку сярод бабулек, якія гандлююць півам уразнос.**

*Айчынных "купцоў", якія перасякаюць польскую мяжу з мэтай "прыгледзець якога-небудзь тавару", а таксама звычайных турыстаў, якія выязджаюць у краіну за Бугам палюбавацца яе прыгажосцю, напэўна, зацікавіць інфармацыя, распаўсюджаная Нацыянальным прэс-цэнтрам Беларусі. Польскі друк папярэджвае: у апошні час пачасціліся грабяжы пасажыраў, асабліва грамадзян Беларусі, Украіны, Расіі і іншых рэспублік былога Саюза. Каб хоць трохі абясшкодзіць патэнцыяльных ахвяр ад негасціннай часткі польскага грамадства, "Газета выборча" раіць прыезджым, карыстаючыся паслугамі чыгуначнага транспарту, сядаць па магчымасці ў пярэднія вагоны, дзе звычайна знаходзіцца некалькі мясцовых пасажыраў.*

**Лякарства ад пахмелля распрацавалі спецыялісты медыцынскага факультэта Сеульскага нацыянальнага універсітэта. Прэпарат, які атрымаў назву АВХ, скарачае ў арганізме чалавека на 11 працэнтаў канцэнтрацыю этанолу і на 35 працэнтаў — ацэтальдэгіду, які ўтвараецца пасля ўжывання спіртнога і з'яўляецца прычынай дрэннага самаадчування.**

*Малы савет Санкт-Пецярбургскага гарадского Савета звярнуўся ў гарадскі суд з іскам да Анатоля Сабчака. Дэпутаты маюць намер у судовым парадку апратэставаць распараджэнне мэра аб спыненні дзейнасці Малога савета.*

**Незвычайна пашанцавала Керчанскай мытні. На паромнай пераправе ў салоне аднаго з легкавых аўтамабіляў выяўлены дзве старажытныя іконы. Адна з іх, паводле думкі спецыялістаў, належыць пэндзлю Андрэя Рублёва! Антыкварная каштоўнасць XY стагоддзя коштам у 250 тысяч долараў была ўкамплектавана ў просценькі драўляны футарал.**

*Старшыня ліберальна-дэмакратычнай партыі Расіі Уладзімір Жырыноўскі звярнуўся ў мінулы чацвер у Трацейскі інфармацыйны суд з заявай, у якой выклаў свае прэтэнзіі да першага віцэ-прэм'ера Расіі Ягора Гайдара ў сувязі з яго выступленнем у Доме кіно 30 лістапада. Як паведамляе прэс-служба ЛДПР, У.Жырыноўскі лічыць абразлівым яго параўнанне з Гітлерам, якое ў гэтым выступленні дапусціў Я.Гайдар.*

**Валерый Зоркін і Віктар Лучын заявілі, што не маюць намеру ісці ў адстаўку "пад націскам". Закранаючы рашэнне Канстытуцыйнага суда РФ аб пазбаўленні іх судзейскіх паўнамоцтваў, яны назвалі гэты крок "незаконным".**

*Накаўтыруючы ўдар у твар зваліў на падлогу прэзідэнта ФРГ Рыхарда фон Вайцзэкера ў час яго наведання гамбургскага тэатра "Талія". Нападаўшы-48-гадовы Хорст Гюнтэр Рорш, былы спартсмен - суперцяжкавагавік, разбіў прэзідэнту губу і нос. Паводле заявы Рорша ў паліцыі, ён справакаваў свой арышт, каб затым расказаць на судзе аб дзейнасці Вайцзэкера ў часы нацыянал-сацыялізму.*

Паводле матэрыялаў інфармацыйных агенцтваў, рэспубліканскіх і замежных газет.

♦ *СІТУАЦЫЯ*

## «КРЫНІЦА» ВЯРНУЛА ВАДУ

**ОРША. (Наш кар.).** Буйная аварыя адбылася на вадаводзе, які пракладзен ад водазабора "Аршыца" ў паўночны раён горада. У выніку жыхары многіх дамоў па вуліцах Леніна, Сяліцкага і іншых засталіся без пітной вады. Пад пагрозай спынення аказаліся малаказавод, хлебазавод і іншыя прадпрыемствы.

Прычына аварыі — моцны мароз у начны час. На ліквідацыю яе былі кінуты ўсе сілы арэнднага прадпрыемства "Крыніца". Людзі працавалі з поўнай аддачай сіл і ўсведамленнем важнасці ўскладзенай на іх задачы. Ужо праз 12 гадзін яны зноў пусцілі ваду ў кватэры і на прамысловыя прадпрыемствы. Маглі б зрабіць гэта значна хутчэй, калі б у марозу не аказаўся адзін каварны "саюзнік" — недахоп паліва. Менавіта з-за яго адсутнасці не ўдавалася забяспечыць бесперабойную работу тэхнікі на месцы аварыі.

◆ *У ПАРТЫЯХ І РУХАХ*

## Задачы вызначаны

Па-дзелавому, на высокім арганізацыйным і ідэйным узроўні прайшла першая Бешанковіцкая раённая канферэнцыя Партыі камуністаў Беларусі. Дакладчык — сакратар райкома партыі Л.Дзячук і выступіўшыя ў спрэчках дэлегаты С.Папко, І.Корбан, П.Міронаў, В.Скрыпкін, К.Дамарацкі, М.Ерашова і іншыя праанізавалі дзейнасць райкома партыі і яго бюро за справаздачны перыяд. У сваіх выступленнях яны сканцэнтравалі асноўную ўвагу на недахопах і нявырашаных праблемах.

Дэлегаты выказалі шэраг крытычных заўваг у адрас асобных службаў райвыканкома за дапушчаныя недахопы ў развіцці народнай гаспадаркі раёна. Крытыкавалі кіраўнікоў раённага вытворчага аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі і камбіната бытавога абслугоўвання за нездавальняючую работу па аказанню паслуг насельніцтву.

Работа райкома партыі за справаздачны перыяд прызнана здавальняючай. Вызначаны канкрэтныя задачы раённай арганізацыі ПКБ на сучасным этапе.

Пасля заканчэння работы канферэнцыі адбыўся пленум, на якім было разгледжана арганізацыйнае пытанне. Першым сакратаром райкома ПКБ выбран А.В.Хрыпценка, сакратаром — М.Ф.Ерашова.

**І.ЗАХАРЧАНКА,**
**сакратар партарганізацыі ПКБ г.п. Бешанковічы.**

◆ *РАДЗІМЫЯ ПЛЯМЫ*

# СТУДЗІЦЬ НЕ ТОЛЬКІ МАРОЗ

Калі ў чарговы раз выслухаў скаргу гэтай жанчыны, падумалася: яе просьбы аб дапамозе падобны на куванне-плач зязюлі. Ніхто не адклікаецца на жальбу адзінокай самотнай птушкі, нікога з лясных жыхароў не хвалюе яе туга.

У такім жа горкім адзіноцтве адчувае сябе ў Талачыне і Таццяна Маркаўна Зорка, якая жыве па вуліцы Пушкіна ў доме № 13. Ці не пашанцавала ёй адразу з-за нешчаслівага, па народнаму павер'ю, нумара дома, ці наканаваны горкі лёс, але ўсяленне ў дом № 13 пятнаццаць гадоў назад замест свята адразу ператварылася для Таццяны Маркаўны ў адны непрыемнасці.

Дом гэты, пабудаваны яшчэ да Кастрычніцкай рэвалюцыі, прыйшоў у поўную непрыгоднасць і капрамонту не падлягае. У адным са шматлікіх адказаўадпісак з розных інстанцый, атрыманых Т.М.Зорка за апошнія гады, так і запісана: "Зрабіць рамонт дома з падняццем фундамента і падрубам ніжняга вянца не прадстаўляецца магчымым з-за яго зношанасці". І далей: "У доме перыядычна праводзяцца падтрымліваючыя рамонты".

Гэтыя апошнія словы, мякка кажучы, пацвярджэння не маюць, бо ў кватэры № 3, якую займае з сям'ёй Таццяна Маркаўна, за ўсе гады яе пражывання цесляры не з'яўляліся. Адрамантавалі, праўда, кватэру № 1. І пашанцавала гаспадыні кватэры хутчэй за ўсё таму, што яе муж працуе ў райкамунгасе. Цяпер у кватэры цёпла. Таццяну ж Маркаўну з сям'ёй "саграваілі" толькі бясконцымі абяцаннямі прадстаўнікі правяраючых інстанцый, куды яна раз-пораз звярталася са скаргамі на невыносныя ўмовы жыцця. І гэта не перабольшанне.

— Спальваю за зіму па 6 — 8 тон брыкету, а цяпла ў кватэры плошчай 14,1 квадратнага метра ніколі не было, бо яно тут жа знікае праз шматлікія шчыліны ў сценах, падлозе, ды і гнілая рама не служыць заслонай ад сцюдзёнага ветру, — са слязьмі на вачах расказвала Т.М.Зорка. — А ў мяне ж малы сын Сярожа часта хварэе, састарэлая маці жыла.

Не, яна не супакойвалася, хадзіла па кабінетах розных раённых кіраўнікоў, пісала скаргі ў аблвыканком, Міністэрства культуры... Таццяна Маркаўна працуе ў бібліятэчнай сістэме 29 гадоў, з іх 15 гадоў — загадчыцай дзіцячай бібліятэкі. "Дайшла" і да народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь У.Кудлаша. Аднак ніхто не дапамог гаротнай жанчыне.

Некалькі гадоў назад нібы прасвет з'явіўся, калі пасля настойлівых слёз і ўпрошванняў прапанавалі, нарэшце, другое жыллё. Але калі глянула на хату, якую давалі ўзамен, па сэрцы нібы паласнула чымсьці вострым: здзекуюцца! Бо хата нават па знешняму выгляду была горшай за кватэру, у якой Т.М. Зорка жыла. Адмовілася, зразумела. Затое цяпер у раённых кіраўнікоў з'явіўся козыр для адмовы ў паляпшэнні жыллёвых умоў: маўляў, табе, Таццяна Маркаўна, прапаноўвалі дом, а ты не пажадала пасяліцца ў ім.

Сёлета, праўда, крыху пашанцавала Таццяне Маркаўне. Ліквідавалі Талачынскі ўчастак надомнай працы, які размяшчаўся ў суседніх пакоях, і тыя пакоі дасталіся ёй. Стала больш прасторна, але не цяплей, бо ўтрымаць цяпло ў струхнелых сценах цяжка.

Цяпер Таццяна Маркаўна, канчаткова страціўшы надзею на паляпшэнне сваіх жыллёвых умоў, дабіваецца рамонту кватэры, а таксама струхнелай веранды.

**М.БАШАРЫМАЎ.**




Мал. А. ХАДКЕВІЧА.

◆ *АБ ЧЫМ ПІШУЦЬ ГАЗЕТЫ*

### Завод мяняе гаспадара

Два гады таму назад у Бешанковіцкім раёне было зарэгістравана таварыства з абмежаванай адказнасцю "Дэльта-КХ", заснавальнікам якога выступіў віцебскі кааператыў "Дарожнік". Статутам прадпрыемства прадугледжваліся вытворчасць і рэалізацыя тавараў народнага спажывання.

Асноўным відам дзейнасці таварыства была вытворчасць цэглы ў Бачэйкаве. Аднак у апошні час у сувязі з тым, што для "Дэльты-КХ" сталі непасільнымі энергазатраты і транспартныя выдаткі, вытворчасць цэглы тут палічылі нерэнтабельнай. У сувязі з гэтым паўстала пытанне аб продажы цагельнага завода. І пакупнік на яго знайшоўся даволі хутка. Ім стала Бачэйкаўская ПМК-3, якая заплаціла 35 мільёнаў рублёў.

Аб гэтым паведамляе бешанковіцкая грамадска-палітычная газета "Зара".

### Дапамагло павышэнне цэн

Апошні час сенненскія хлебапёкі сталі радаваць мясцовых жыхароў незвычайна багатым асартыментам хлебабулачных вырабаў. Праўда, здарылася гэта чамусьці толькі пасля значнага павышэння цэн на іх. Здаецца, піша раённая газета "Голас Сенненшчыны", што ўся справа якраз у гэтым. Бо раней нашы хлебапёкі асаблівымі клопатамі абцяжарваць сябе не хацелі, маўляў, няхай купляюць тое, што ёсць. А што будзе, калі наш слаўны ўрад яшчэ раз цэны на хлеб узніме?

### Камуністы выходзяць з акопаў

Днямі адбыліся сходы ў пярвічных арганізацыях Партыі камуністаў Беларусі саўгасаў імя Углоўскага, "Суражскі", калгасаў імя Леніна, "Запаветы Ільіча", імя Куйбышава, Суражскага лясгаса і Суражскага пасялковага Савета. На іх разгледжаны пытанні, вынікаючыя з рашэнняў лістападаўскага пленума ЦК ПКБ.

Камуністы ўсебакова абмеркавалі палітычную сітуацыю ў рэспубліцы. Многа ўвагі было ўдзелена праблемам выратавання эканомікі гаспадарак, абароны насельніцтва ад дзікага рынку, капіталізацыі грамадства, разграблення агульнанароднага дабра.

Аб гэтым гаворыцца ў адным з нумароў віцебскай раённай газеты "Ленінская праўда". На сходах асуджаліся дзеянні былых камуністаў-наменклатуршчыкаў, якія прадаліся сучасным лідэрам, дзьмуць з імі ў адну дудку, рабуючы свой народ, былых радавых партыйцаў. Члены ПКБ катэгарычна адмяжоўваюцца ад іх.

На многіх сходах прысутнічалі беспартыйныя, якія прымалі актыўны ўдзел у абмеркаванні пытанняў. Многія з былых камуністаў, што прысутнічалі на сходах, тут жа прайшлі перарэгістрацыю, заплацілі членскія ўзносы. А камуністы калгаса "Запаветы Ільіча" вызвалілі А.Ц.Сысоева ад абавязкаў сакратара партарганізацыі за слабую арганізатарскую работу.

Так што камуністы раёна, як піша газета, ачышчаючы свае рады ад былога накіпу, выходзяць з акопаў, у якіх яны апынуліся па волі былых партыйных лідэраў пасля вядомых падзей жніўня 1991 года.

◆ *СА СТУЖКІ ТЭЛЕТАЙПА*

# Спяшайцеся ва ўласнікі

У Мінсельгаспродзе рэспублікі завершана работа над галіновай праграмай раздзяржаўлення і прыватызацыі ў аграпрамысловым комплексе ў 1994 годзе. Яна ахоплівае многія дзесяткі прадпрыемстваў і дзяржгасаў з маёмасцю на сотні мільярдаў рублёў. Сярод іх такія буйныя заводы, як Аршанскі трактарарамонтны, барысаўскі "Палімір", трэст "Пінсксаўгасбуд", мінская кандытарская фабрыка "Камунарка", саўгасы "Вялікае Мажэйкава" Шчучынскага, "Галубіцкі" Петрыкаўскага раёнаў і іншыя.

Ажыццяўляцца праграма будзе галоўным чынам шляхам акцыяніравання і надзялення долевай уласнасцю юрыдычных і фізічных асоб з улікам размеру балансавага кошту канкрэтнага прадпрыемства і асабістага ўкладу працаўнікоў.

Праграма не выключае розныя спосабы прыватызацыі, у тым ліку набыццё дзяржаўных прадпрыемстваў па конкурсу і на аўкцыёнах. Для гэтага можна будзе выкарыстоўваць прыватызацыйныя чэкі і асабістыя зберажэнні.

**Белінфарм.**

# ЧЫТАЧ-ГАЗЕТА

## Як стаць бухгалтарам?

*Вельмі хачу атрымаць спецыяльнасць бухгалтара. Раней у Віцебску былі курсы, дзе вучылі гэтай спецыяльнасці, ці ёсць яны зараз?*

**Наталля Н.**

Шуміліна.

Як нам паведамілі з абласной асацыяцыі бухгалтараў, пры гэтай грамадскай арганізацыі працуюць пастаянна дзеючыя курсы, семінары, лекторыі, кансультацыі па бухгалтарскаму ўліку, справаздачнасці, рэвізіях і падатковаму заканадаўству. Акрамя гэтага, асацыяцыя прымае прадпрыемствы, арганізацыі, установы ўсіх форм уласнасці, кааператывы і прыватных прадпрымальнікаў гарадоў і раёнаў вобласці ў калектыўныя члены, якім гарантуюцца пастаяннае абслугоўванне і любыя высокакваліфікаваныя прафесійныя паслугі, у першую чаргу, бясплатна або па сабекошту паслуг.

Уступны ўзнос — 20 тысяч рублёў, а штогодні — 10 тысяч рублёў.

Заяўкі на курсы і на любыя паслугі можна накіроўваць па адрасу: г. Віцебск, праспект Чарняхоўскага, 22, корпус 2, пакой 32. Тэлефоны для даведак: 33-36-16, 2-01-87.

## Як атрымаць пасведчанне партызана

*Чула, што апошнім часам аднавілася работа па прызнанню асоб, якія былі ў партызанах, удзельнікамі партызанскага руху і падполля ў Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Раскажыце, калі ласка, што для гэтага трэба і куды звяртацца.*

**Р.ЛЮТЭНКА.**

Сенненскі раён.

Старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па справах ветэранаў і інвалідаў М.Д.Жукоўскі тлумачыць, што асобы, якія па нейкіх прычынах своечасова не ўключаны былым камандаваннем атрадаў, брыгад, іншых партызанскіх фарміраванняў, а таксама кіраўнікамі падполля ў спісы партызан, падпольшчыкаў і партызанскіх сувязных ваеннага часу, маюць права прадставіць у гарадскую (раённую) камісію па справах былых партызан і падпольшчыкаў па месцы дзеяння ў гады вайны падпольных арганізацый (груп), партызанскіх атрадаў, брыгад: заяву, асабісты лісток па ўліку партызанскіх кадраў з баявой характарыстыкай, падпісаны адным з кіраўнікоў партызанскага атрада, брыгады (камандзірам, камісарам, начальнікам штаба, намеснікам камандзіра па разведцы, памочнікам камісара па камсамолу, начальнікам асобага аддзела), кіраўніком падпольнай арганізацыі (групы); пацвярджэнні трох былых партызан або падпольшчыкаў, сувязных, якія сумесна з заяўнікам прымалі ўдзел у дзейнасці канкрэтнага партызанскага атрада, брыгады, падпольнай арганізацыі (групы); дакументы ваеннага часу і іншыя матэрыялы першых пасляваенных гадоў, якія пацвярджаюць удзел у партызанскім руху і падполлі, даведкі органаў дзяржаўнай бяспекі і мясцовых органаў улады, дакументы аб узнагароджанні баявымі ўзнагародамі.

Пацвярджэнні былых партызан, падпольшчыкаў, сувязных і баявая характарыстыка пішуцца ўласнаручна тымі, хто пацвярджае, і камандаваннем, завяраюцца ва ўстаноўленым парадку. У іх павінны быць указаны тэрмін знаходжання асоб у якасці сувязных, партызан, падпольшчыкаў, а таксама ўтрымлівацца канкрэтныя звесткі аб патрыятычнай дзейнасці.

Раённая (гарадская) камісія вывучае і правярае ўсе дакументы, якія паступілі, пры неабходнасці запрашае заяўніка і тых, хто пацвярджае. Яны нясуць адказнасць за правільнасць дадзеных звестак.

Раённая (гарадская) камісія выносіць сваё рашэнне і накіроўвае матэрыялы ў Камісію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па справах ветэранаў і інвалідаў для зацвярджэння рашэння.

Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па справах ветэранаў і інвалідаў разглядае прадстаўленыя раённымі (гарадскімі) камісіямі дакументы і пасля іх зацвярджэння накіроўвае на пастаяннае захоўванне ў Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь; ажыццяўляе агульнае кіраўніцтва і кантроль за работай абласных, гарадскіх і раённых камісій па справах былых партызан і падпольшчыкаў; аказвае неабходную дапамогу былым партызанам і падпольшчыкам, партызанскім сувязным у афармленні дакументаў, якія пацвярджаюць іх удзел у партызанскім руху, падпольнай дзейнасці ў Беларусі ў гады вайны; прымае канчатковае рашэнне па спрэчных пытаннях, звязаных з прызнаннем грамадзян удзельнікамі партызанскага руху і падполля; арганізуе выдачу пасведчанняў і памятных знакаў партызанам.

Асобы, якія прыбылі ў партызанскія атрады, брыгады з варожых фарміраванняў, прадстаўляюць адпаведную архіўную даведку. Выдача ім пасведчання партызана Беларусі ажыццяўляецца Камісіяй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па справах ветэранаў і інвалідаў.

## Вяртанне адкладваецца?

*Ваша газета на пытанне аднаго балельшчыка адказала, чым цяпер займаецца славуты футбаліст і трэнер Эдуард Васільевіч Малафееў. Нядаўна чуў па радыё, што ён вяртаецца ў Беларусь.*

**А.БЯРОЗКІН.**

г. Віцебск.

Эдуард Васільевіч Малафееў, настаўнік "залатога" мінскага "Дынама" 1982 года, у гэтым сезоне ўзначальваў адну з каманд Сібіры — цюменскую "Дынама-Газавік". І пакарыў чарговую трэнерскую вышыню. Каманда ў нялёгкай барацьбе заваявала права ў будучым сезоне выступаць у вышэйшай лізе расійскага футбола.

Сапраўды, Э.Малафееў адклікнуўся на просьбу мінскага футбольнага клуба "Тарпеда" і даў згоду ўзначаліць яго. Аднак пры адной умове — калі сібіракі няўдала выступяць у пераходным турніры. Але ж яны там датэрмінова сталі пераможцамі. Так што паклоннікі таленту Эдуарда Васільевіча, з аднаго боку, парадаваліся поспехам, з другога — засмуціліся. Бо цяпер пытанне аб вяртанні Э.Малафеева ў Беларусь застанецца адкрытым.

# Боль страты невылечны

Час няўмольна шыбуе наперад. Падзеі наслойваюцца адна на адну, адкідваецца нешта другараднае, непатрэбнае. Застаецца самае галоўнае. Застаецца ў чалавечых сэрцах боль страт, нанесеных гібеллю родных і блізкіх людзей пры абароне Айчыны. Мэта іх была ясная і канкрэтная: не даць сябе заняволіць чорнай фашысцкай чуме, не стаць на калені перад ворагам. І колькі б мы ні гаварылі і ні пісалі — гэта тэма застанецца самай надзённай і актуальнай ва ўсе часы.

Зусім нядаўна патрыятычны рух быў пастаўлены на салідную ідэалагічную аснову, і гэта прыносіла станоўчыя вынікі. Цяпер жа практычна ўсё трымаецца на плячах энтузіястаў, якіх вельмі і вельмі мала. Няўжо мы забылі вайну і тыя незлічоныя ахвяры і пакуты, якія яна прынесла нам?

13 лістапада адбылося чарговае перапахаванне астанкаў загінуўшых воінаў, што змагаліся за вызваленне Віцебска, якія былі знойдзены ў акопах і варонках на месцах баёў. З 50 загінуўшых прозвішчы ўдалося ўстанавіць па нумарах знойдзеных медалёў "За адвагу" і "За баявыя заслугі" толькі трох. Гэта малодшы лейтэнант П.Т.Гнутаў з Краснаярскага краю, чырвонаармеец Ф.Х.Хабібулін з Башкірыі, сяржант В.І.Скасырскі з Бурат-Мангольскай АССР.

Да апошняга дня вяліся пошукі блізкіх загінуўшых. Адазвалася пакуль дачка Фазлы Хабібулавіча Хабібуліна, але, на жаль, з-за хваробы яна не змагла прыехаць. Каб яе адшукаць, давялося напісаць больш за 30 пісьмаў ва ўсе куткі СНД. Пошук родных П.Т.Гнутава і В.І.Скасырскага працягваецца.

Перапахаванне адбылося ў вёсцы Кузьмянцы Віцебскага раёна. Большасць знойдзеных — воіны Віцебскай Чырванасцяжнай ордэна Суворава 251-й стралковай дывізіі. Яны загінулі ля вёскі Шаркі. Напярэдадні генеральнага наступлення з 17 па 21 чэрвеня 251-я стралковая праводзіла разведку боем. За чатыры дні страты склалі 1200 чалавек. Большасць іх так і засталіся ляжаць непахаванымі. Поле пад Шаркамі кожны год пераворваецца, і варта плугу ўвайсці крыху глыбей у зямлю — адразу агаляюцца косці. Ці ж гэта можа пакінуць кагосьці раўнадушным і абыякавым?!

Менавіта таму рабяты з абласнога аб'яднання "Пошук" кожны выхадны і свабодны дзень выязджаюць у экспедыцыі на месцы былых баёў з мэтай не толькі знайсці і перапахаваць, а самае галоўнае — увекавечыць памяць загінуўшых і ў спісах сельсавета, і на помніку, і ў кнізе "Памяць", каб нашчадкі помнілі, якой цаной дасталася Перамога, і ніколі не забывалі аб гэтым.

Шчырыя словы падзякі за дапамогу ў арганізацыі і правядзенні перапахавання трэба сказаць фонду моладзі Чыгуначнага раёна, ВВП "Хімпласт" за прадастаўлены аўтобус, рабочым завода "Эвістар" за шыльдачкі для помніка, калгасу-камбінату "Звязда" і Шапечынскаму сельсавету, аб'яднанню "Віцебскэнерга" (БелДРЭС) за выраб дамавін.

Перапахаванне закончылася, але засталося мноства праблем. Без дапамогі дзяржаўных і грамадскіх арганізацый нам іх не вырашыць. Абласное аб'яднанне "Пошук" уваходзіць у Міжнародную асацыяцыю пошукавых аб'яднанняў (АСПА). Кожны пошукавы атрад і клуб маюць афіцыйны пашпарт, які дазваляе правядзенне пошукавых работ на мясцовасці, зарэгістраваны ў абласным УУС, аблваенкамаце і ў адміністрацыі вобласці. Усе пошукавыя мерапрыемствы ўзгадняюцца з мясцовымі органамі ўлады.

Вельмі хочацца, каб усе, нарэшце, зразумелі, што гэта не звычайная работа, а дзяржаўная, свяшчэнны абавязак перад памяццю загінуўшых. Не сакрэт, што не заўсёды і не ўсюды мы атрымліваем падтрымку, хоць у нас у краіне практычна няма такой сям'і, якую не закрануў бы злавесны цень вайны. І вялікае дзякуй тым, хто дапамагае нашаму аб'яднанню ўвекавечваць памяць салдат мінулай вайны, тых, хто змагаўся за нас на полі бою да апошняй кроплі крыві і не адступіў.

**А.БУРДО,**
**член каардынацыйнага савета аб'яднання "Пошук".**



На здымку: перапахаванне ў Кузьмянцах.

Фота В.РАПЕЦКАГА.

◆ З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

## У «Радон» за здароўем

Народная мудрасць гаворыць: лепш адзін раз убачыць, чым сто разоў пачуць. І гэта справядлівыя словы.

Пачуў я неяк па радыё, што ў нашай рэспубліцы на тэрыторыі Дзятлаўскага раёна Гродзенскай вобласці знойдзена лячэбная крыніца і на базе яе адкрыт новы санаторый "Радон". Для лячэння там выкарыстоўваецца радонавая вада, якая па сваму хімічнаму саставу і дзеянню не ўступае вядомым курортам Цхалтуба і Пяцігорск. Таксама ёсць добрая гразелячэбніца, якая працуе на мясцовых лячэбных гразях.

Адзін з маіх знаёмых, які пабываў там, у гутарцы пацвердзіў эфектыўнасць лячэння і параіў: едзь, не пашкадуеш!

...І вось я на месцы, у санаторыі "Радон".

Што ён з сябе ўяўляе?

Гэты прыгожы будынак размешчаны ў маляўнічым месцы ў сасновым лесе на берагах ракі Молчадзь і штучнага возера.

Санаторый мае спальны корпус на 430 месц. Пакоі аднамесныя і двухмесныя, 20 пакояў для сямейных. Ёсць тэлевізары.

У лячэбным комплексе працуюць аддзяленні для лячэння апорна-рухальнага апарату, а таксама неўралогіі і гінекалогіі. Тут ёсць 12 ваннаў, аўтаматычная ўстаноўка для сухіх вуглякіслых ваннаў, кантрастныя ванны, 4-камерныя ванны, падводны масаж, гразелячэбніца на 13 ложкаў. Пачаў дзейнічаць цудоўны плавальны басейн. Кабінеты аснашчаны сучаснай лячэбна-дыягнастычнай апаратурай.

Распрацаваны на навуковай аснове рэжым адпачынку дазваляе эфектыўна выкарыстоўваць лячэбныя ўласцівасці прыроды. І самае, бадай, прыемнае ўражанне пакідаюць адносіны да адпачываючых з боку абслугоўвага персаналу санаторыя. Пачынаючы з урачоў і заканчваючы санітаркамі — усе настроены выключна добразычліва да людзей, якія прыехалі папраўляць сваё здароўе.

Адным словам, хочацца закончыць словамі майго знаёмага: едзьце, не пашкадуеце!

**М.ЯСКІН,**
**інвалід Вялікай Айчыннай вайны.**
**Віцебск.**

## Да чаго дажылі...

Мой муж быў членам партыі, працаваў сумленна, быў будаўніком дарог і мастоў. Спачатку тэхнікам, потым інжынерам. Скончыў будаўнічы інстытут без адрыву ад вытворчасці. Бесперапынны стаж работы — 44 гады. Пасля пенсіі ён працаваў 7 год пры ЖЭУ.

Вашу газету ён выпісваў пастаянна. Выпісаў "Віцебскі рабочы" і на 1994 год. Але чытаць яму не давядзецца. Нядаўна я яго пахавала — раптоўна спынілася сэрца.

Да чаго ж дажылі мы, старыя людзі... Калі я пайшла атрымліваць грошы на пахаванне, мне далі толькі 75 тысяч рублёў. Нават не далі яго месячнай пенсіі. А чым пакрыць затраты, калі я заплаціла толькі за месца на могілках 25 тысяч, 20 тысяч за труну і столькі ж за яе дастаўку, за музыку. А калі купіць касцюм, сарочку, абутак у апошні шлях, у колькі ж гэта абыдзецца па сённяшніх цэнах? А калі памянуць нябожчыка па традыцыі?..

Крык душы нічым не суняць... Людзі, да чаго ж мы дажылі і што чакае нас наперадзе?! Для каго мы ваявалі і абаранялі сваю Радзіму? Для грабежнікаў, жулікаў, спекулянтаў, лайдакоў?

Я сама ўдзельніца вайны, была ранена пры выкананні баявога задання. Не ведаю, ці паспею развітацца з даўгамі да сваёй смерці, бо мне самой пайшоў восьмы дзесятак...

**Р.СЯРГЕЕВА.**
**Віцебск.**



**37-34-40**
СЛУЖБА ЗВАРОТНАЙ СУВЯЗІ

# Гарачы тэлефон

Больш трох тыдняў "пячэ" ранні мароз. Холадна на вуліцы і ў кватэрах не надта сагрэешся. Але, як ні дзіўна, на гэты раз па нашым "гарачым тэлефоне" не было скаргаў на дэфіцыт бытавой камфортнасці. Відаць, прыярытэты з часам таксама мяняюцца. Але аб усім па парадку.

### Прыемнае знаёмства

Ніна Андрэеўна Варахобка (Халецкая) адразу ж папрасіла прабачэння, што турбуе не "па праблеме". Яе зацікавіла маё прозвішча.

— Ці не жылі вы калі або ваш бацька ў Бачэйкаве Бешанковіцкага раёна? Ведала я некалі ветурача Бараноўскага, дужа добры чалавек быў.

Давялося расчараваць жанчыну: нашы шляхі не перасякаліся. Але слова за слова — разгаварыліся. Так па тэлефоне давялося пазнаёміцца з сапраўды цікавым чалавекам, аб чым не магу хоць бы коратка не расказаць.

Ніне Андрэеўне цяпер пад 70, інвалід 2-й групы, жыве яна ў сям'і дачкі ў Віцебску. Па стану здароўя перабралася ў горад. Але ўспаміны яе — аб тым далёкім часе, аб маладосці. Была партызанкай, мае раненне. Пасля вайны нейкі час працавала на кінаперасоўцы.

Потым амаль 10 год на трактары-карчавальніку С-100 у Бачэйкаўскай ПМК. Працаваць давялося не толькі ў Бешанковіцкім, але і ў Чашніцкім, Ушацкім, Лепельскім раёнах. Не аднойчы першынство ў спаборніцтве займала.

Успамінамі жыве цяпер былая славутая трактарыстка. Усіх і ўсё яна помніць. А ці памятаюць яе? Ляцяць гады, мінаюць святы. Цяжка жыць у няведанні. І паехаць не можа — сіл ужо няма. Таму прыміце, бачэйкаўцы-меліяратары, прывітанне і найлепшыя пажаданні ад былога члена вашага калектыву. А надумаеце патурбаваць Ніну Андрэеўну, вось яе тэлефон: 2-68-36.

### Чаму плыве ўсё за мяжу?

Работніца дывановаага аб'яднання Тамара Пятроўна Бархоткіна, як яна сама сказала, выпісвае "Віцьбічы", а пазваніла — нам. Прыемны такі давер. Жанчыну хвалюе агульная наша праблема: чаму ў магазінах нічога не дакупіцца? Нават з хлебам цяжкасці. Яна ведае — чаму. Шмат вывозяць. І не столькі госці, колькі свае.

Расказала аб адным знаёмым беспрацоўным. Той прызнаўся: навошта мне працаваць, калі я і так 150 тысяч за тыдзень маю. Яго "бізнес" — перапродаж нашых віцебскіх прадуктаў у блізкім замежжы.

Не трэба думаць, што расіяне пухнуць з голаду. У іх якраз, па сучасных мерках, у магазінах ёсць усё. А ў дадатак нашы карбейнікі на кожным вуглу прапаноўваюць тавар. Крыху дзешавей, але з вялікім наварам для сябе.

Трэба нешта тэрмінова рабіць, лічыць Тамара Пятроўна. Чамусьці зацiхла размова аб рублёвай зоне, магчыма, гэта і выратавала б нас. І аб сяле неабходна больш клапаціцца, бо неўзабаве можа стацца, што ні тут прадаваць, ні ў замежжа везці будзе нечага.

### «Для нас гэта не дробязь...»

Мы ўжо звыкліся, што жывём у асяроддзі праблем. Прачынаемся і засынаем з імі. Але праблемы бываюць розныя. Для вырашэння адных патрэбны "высокія" рашэнні, другія, іх асабліва шмат, пасільны мясцоваму ўзроўню. Толькі вось яны, апошнія, якраз чамусьці самыя доўгавырашальныя. Вось асобныя званкі.

**Джэмі Уладзіміраўна Бярэзіна** расказала пра сваю вуліцу імя Я.Коласа ў Віцебску.

Улетку пачалі мяняць асвятляльныя слупы. Дайшлі да прыватнага сектара і спыніліся. Слупоў пяць засталося паставіць. Усюды светла, а тут хоць вока выкалі. Вельмі нязручна і дарослым, і школьнікам. Няўжо ўсё так і застанецца?

**Мікалай Навумавіч Рыжыкаў** ніяк не можа здаць некалькі бутэлек з-пад шампанскага. Ды і іншую шклатару амаль немагчыма збыць. А абяцала ж гарадская ўлада навесці парадак. Няўжо яна такая бяссільная?

### Ёсць такое аб'яднанне

— У апошні час усё больш актыўна заяўляе аб сабе Народны рух Беларусі. Што гэта — палітычная партыя, рух? — пытаецца **П.С.Сімакоў.**

Сапраўды, Народны рух Беларусі існуе і набірае сілу. Адзін з функцыянераў абласнога камітэта гэтага аб'яднання растлумачыў:

— У Народны рух Беларусі на добраахвотнай аснове ўвайшлі 19 арганізацый. Сярод іх: Славянскі Сабор "Белая Русь", Фонд сацыяльнай абароны ваеннаслужачых, ДСПС, арганізацыя ветэранаў, Саюз афіцэраў, Партыя камуністаў Беларусі, Камітэт салдацкіх маці, дэпутацкая фракцыя "Саюз" ВС РБ, дэпутацкая фракцыя ПКБ ВС РБ і іншыя.

Праграма аб'яднання простая. Народ стаміўся ад канфрантацыі. У грамадстве неабходна забяспечыць парадак, стабільнасць, згоду. У нашым доме няма месца тым, хто хоча ўцягнуць нас у багну класавай, сацыяльнай і нацыянальнай варожасці.

Больш падрабязна аб дзейнасці аб'яднання можна даведацца па тэлефоне 37-04-50 у Віцебску.

### У каго што баліць...

Нашу даўнюю чытачку Н.Д.Канстанцінаву ўразіла заметка ў газеце, дзе паведамлялася аб тым, што французскія бізнесмены будуць дастаўляць у Беларусь футра для апрацоўкі з Сярэдняй Азіі. І ў той жа час яна прывяла прыклад, калі нашы сяляне адмаўляюцца разводзіць авечак таму, што не могуць збыць аўчыны.

Што тут каменціраваць? Усё гэта парадоксы нашага сучаснага жыцця.

***

**В.В.Каралёва**, віцябчанка, пытаецца, ці мае права яна па пасведчанню пенсіянера бясплатна карыстацца грамадскім транспартам за межамі горада? У аддзеле кантрольна-рэвізорскай службы "Віцебскаблаўтатранса" растлумачылі: бясплатнае карыстанне грамадскім транспартам гэтай катэгорыі грамадзян дазволена толькі ў межах горада.

**Я.В.Кірычэнка**, будучая маці, занепакоена, ці будуць павялічаны дапамогі па догляду дзіцяці да трох год? У аддзеле сацзабеспячэння Кастрычніцкага райвыканкома паведамілі, што такіх звестак не маюць. За растлумачэннямі аб парадку выплат па догляду дзіцяці і іншымі дапамогамі параілі звяртацца да спецыялістаў раённых аддзелаў сацзабеспячэння.

### "Быццам бы і стараюцца..."

У час размоў з нашымі чытачамі так ці інакш заходзіла гаворка і аб высокай палітыцы. У прыватнасці, многія выказвалі думку аб вышэйшых уладных структурах, рабоце цяперашняй сесіі Вярхоўнага Савета.

Адразу скажу: станоўчых ацэнак не было. Вось некаторыя выказванні:

— Надакучыла гэта канфрантацыя ў парламенце. Няўжо немагчымы кампрамісы? Супрацьстаянне вядзе да імклівага разбурэння эканомікі, збяднення людзей.

— Цэлымі днямі гавораць, а што з таго? Нас, простых людзей, як ціснулі, так і ціснуць адусюль: цэны, спекулянты, злачынцы... Дзе яна, улада?

— Яны там, у парламенце, быццам бы і стараюцца, каб вывесці рэспубліку з крызісу. Быццам бы ўсе за народ. Але чаму тады мы з кожным днём жывём горш?

**А.БАРАНОЎСКІ.**

**На гэтым тыдні ў сераду і чацвер з 17 да 18 гадзін па тэлефоне 37-34-40 вас выслухае аглядальнік па пытаннях сельскага жыцця Міхаіл Адамавіч КРЫЖАНОЎСКІ.**

